# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ІМПЭРЫІ РАЗВАЛЬВАЮЦЦА. НАМ - ЖЫЦЬ

У 1991 годзе і Расея, і Беларусь былі прыкладна ў аднолькавым эканамічным становішчы. Прычым Расея нават у горшым. І наш урад пастаянна падкрэсьліваў, што ў нас лепш. Мінуў час - і што мы маем?

Урад Расеі за гэтыя гады змог вызначыць самае слабае зьвяно ў эканамічным ланцугу і ўзяўся за яго аздараўленьне. А зьвяно гэтае - фінансава-крэдытная сыстэма. Ня будзе грошай - ня будзе й рынку. Мы ж вырашылі ўводзіць бартэр, таму й атрымаўся такі дзікі рынак, калі кожны цягне коўдру на сябе.

Гайдар жа, які ўзначаліў тады расейскі ўрад, стаў менш фінансаваць «ляжачую» прамысловасьць. Па сутнасьці ўрад Расеі кінуў прамысловасьць на выжываньне. І моцныя выплываюць, а слабыя тонуць. Узьнікае беспрацоўе, але паколькі рабочых месцаў хапае, то беспрацоўныя , хоць і са скрыпам, аднак знаходзяць сабе працу. Датацыі выдаюцца толькі тады, калі ўзьнікае сацыяльнае напружаньне. Вельмі балюча, але працэс ідзе, і сёньня можна гаварыць аб нейкіх станоўчых выніках.

А што рабілі мы, знаходзячыся ў лепшых умовах, маючы дастатковую колькасьць рабочых месцаў, моцна разьвітую прамысловасьць? На жаль, мы пачалі за кошт моцных паляпшаць стано-вішча слабых. Ты сёньня моцны - аддай другому, які ня можа зьвесьці канцы з канцамі. Увялі клірынгавы гандаль. Пачалі адбі-раць у тых, хто можа рабіць канкурэнтназдольную прадукцыю, і прадаваць яе самі. Але чаму чыноўнік павінен гандляваць? Прычым, прадаваць, ня ведаючы канъюктуры рынку й разбураючы гэты самы рынак. Завод халадзільнікаў ня можа прадаць уласныя вырабы, бо ў яго ніхто іх не купляе. Яму прама гавораць: »Мы лепш купім у вашага ўрада. Гэта будзе таньней». З калійнымі ўгнаеньнямі адбылося ўвогуле неверагоднае. Іх так пачалі прадаваць, што нас проста выпхнулі з сусьветнага рынку, і замежныя спажыўцы сталі закупляць угнаеньні ў Салікамску.

Так, ва ўрада шмат клопатаў. У яго на нагах знаходзіцца вельмі цяжкі камень - камунальная гаспадарка, ацяпленьне, газа і электраэнэргія для насельніцтва. Але чаму толькі гэта й не трымаць яму пад сваім кантролем? Навошта дзейнічаць за ўсіх? Урадавыя чыноўнікі задаволены тым, што, абіраючы моцных, не дапусьцілі масавага беспрацоўя. Аднак тут добрае ператвараецца ў супрацьлеглае. І супрацьлегласьць гэта заключаецца ў тым, што нашы прамысловасьць і сельская гаспадарка не разьвіваюцца. Моцныя абяскроў-лены, ў іх адабралі сродкі, якія патрэбны для тэхнічнага пераў-зброеньня. Асноўныя фонды састарэлі, іх трэба мяняць, неабходны новыя тэхналёгіі, а сродкаў няма. Тых сродкаў, што застаюцца, хапае хіба толькі на выплату зарплаты.

Як кажуць, прыплылі! Сёньня многія задаюць пытаньне: а што будзе заўтра? А вось што. У Расеі ўнутраныя цэны на энэрганосьбіты ніжэй сусьветных. Нам таксама хочацца атрымліваць па іх, і дзеля гэтага адбываецца аб'яднаньне грашовых сыстэм. Але пакуль гэта здарыцца, пройдзе нямала часу. Расея заявіла, што ў канцы цяперашняга года яна і ўнутры краіны ўстановіць на энэрганосьбіты сусьветныя цэны. Ня будзе ў нас ніякага выйгрышу! Нашы прадпрыемствы стануць працаваць у расейскіх умовах, галоўная з якіх - выжываньне. Сярэдняя зарплата вельмі розьніцца: 60-70 даляраў - у Расеі, 20-25 - у Беларусі! І цешыць сябе тым, што расейцы пойдуць на абмен 1:1 - ня варта. Ніколі гэтага ня будзе.

Добра, няхай аб'яднаньне адбылося. Што тады будзе з беларускімі прадпрыемствамі? Яны ўсе загінуць, спачатку слабыя, а потым сярэднія. Цераз год мы загубім усю сваю прамысловасьць, бо моцных прадпрыемстваў, якія б здолелі канкураваць з расейскімі, ў нас ужо не засталося.

У Расеі ёсьць свае гэапалітычныя інтарэсы. Беларусь, безумоўна, ўваходзіць у гэтую сфэру. Зразумела, Расея гатова плаціць. Яна заплоціць, але якой цаной? Цаной гарантый з нашага боку! А гарантыі адны - страта сувэрэнітэту! Усё! Колькі б не казалі, што «ничего подобного», але гэта так. Кажуць, што на чале Расеі добрыя людзі. А хто прыйдзе заўтра? Ці можна быць упэўненым у стабільнасьці Расеі і ісьці да яе, страчваючы сувэрэнітэт? Няма ў гісторыі прыкладу, каб хоць адна імпэрыя захавалася. Нехта можа ўспомніць аб Злучаных Штатах Амэрыкі. Але там на першы плян паставілі правы чалавека, а не нацыянальныя пытаньні. Тым ня менш, пэўная ўнутраная напружанасьць у краіне захоўваецца, і няма гарантыі, што з цягам часу з ЗША нічога ня здарыцца. Што ж датычыць Расеі, то я больш чым упэўнены, што яна распадзецца.

Таму мы павінны ўсьвядоміць неабходнасьць пабудовы сваёй дзяржавы і ўмацоўваць яе. Варта лібэралізаваць эканамічныя працэсы. Возьмем прыклад з нафтавай галіной. У Расеі даўно ўжо адбываецца яе раздзяржаўленьне, ў нас жа яна па-ранейшаму дзяржаўная. Наш прэм'ер прыяжджае ў Маскву, і Ельцын, як і Чарнамырдзін, гаворыць: «Калі ласка, дарагі, бяры ты гэтую нафту, якія праблемы?» Дамовіліся. Прыяжджаюць нашы эмісары, а ім у адказ:»Чаго вы ў Маскву езьдзілі, плаціце й бярыце». А плаціць няма чым, разьлічвалі на танную нафту. Цяпер урад павярнуўся на 180 градусаў, дае свабоду прадпрыймальніцтву. Але чамусьці не забывае й дзяржаўныя структуры, якія абанкроціліся.

Ня трэба адміністратыўных мераў. Дайце людзям працаваць і распараджацца сваёй прадукцыяй, зарабляць грошы. Былі б грошы - з любым расплаціліся б, любую прадукцыю купілі б, і ніякага разрыву сувязяў не было б.

Думаецца, сёньняшні ўрад ня ў стане гэта зразумець. І віну за гэта павінен узяць на сябе яго кіраўнік. Калі мы не заменім кіраўніка, то ня зробім наперад ні кроку.

**Аляксандр САСНОЎ,**
**народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.**

## БЕЛАРУСКІ ЎРАД - САМЫ ЛЕПШЫ ЎРАД У СЬВЕЦЕ АЛЬБО ЦЭНЫ - НАЗАД!

Напэўна, ўся Беларусь пачула публічную заяву Кебіча, што батоны патаньнеюць, а вінаватыя «будут наказаны вплоть до снятия с занимаемых должностей». З добрай ласкі Кебіча патаньнеў і цукар на 600 рублёў.

Але ўсё гэта нічога ў параўнаньні з тым, што на мінулым тыдні без талёнаў па дзяржаўнаму кошту на тэрыторыі ўсёй Беларусі пачалі прадаваць гарэлку, а той, хто набываў усё ж па сьпісах у краме, за якой замацаваны, мог выкупіць яшчэ й за наступны месяц. Сапраўдныя дзівосы ў нашай краіне. І ўсё гэта дзякуючы нашаму дарагому, нікім і ніколі не замянімаму ўраду. Ведайце й дзякуйце, людцы добрыя, Богу, што маем такіх кіраўнікоў, якія так клапоцяцца аб нашым дабрабыце.

Піце й еўце на здароўе, толькі не хадзіце на плошчу й не страйкуйце. А скончацца гарэлка й булкі з макам - прасьпіцеся, ўключыце тэлевізар і даведаецеся, што знаходзіцеся ўжо ў рублёвай зоне, а там усе гэтыя даброты самі вам у хату наплывуць.

**Ф.МАЛЕЦКАЯ.**

## СУСТРЭЧА З М.СТАТКЕВІЧАМ

Чарговае пасяджэньне ваблаcной рады ТБМ у Горадні было прысьвечана справаздачным і арганізацыйным пытаньням, а таксама праблемам беларусізацыі ў войску. З гэтае нагоды былі запрошаны прадстаўнікі вайсковых частак Горадні, ў паседжаньні браў удзел намесьнік старшыні ваблаcной рады ТБМ п-к С.Суднік з Росі, сярод гасьцей таксама прысутнічаў старшыня Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў М.Статкевіч.

У другой палове дня М.Статкевіч, старшыня БЗВ, сустрэўся з грамадзкасьцю горада. Ён распавядаў прысутным аб дзейнасьці сваёй арганізацыі й адказаў на пытаньні.

**Ф.МАЛЕЦКАЯ.**

## АД ПЕРАМЕНЫ МЕСЦАЎ СКЛАДАЕМЫХ ВЫНІК НЕ МЯНЯЕЦЦА

У сваёй прамове на першай прэсканфэрэнцыі новы старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі (трэці за гэтае скліканьне) абвесьціў, што Беларусь у сваёй зьнешняй палітыцы аддае прэарытэт зносінам з Расеяй. Канешне, каб былі міждзяржаўныя дачыненьні партнёрскімі й добрасуседзкімі, то такое жаданьне трэба толькі віншаваць.

Дык што ж на самой справе атрымае Беларусь ад прыязных стасункаў з усходнім суседам.?

Па-першае, наша дзяржава адразу трапляе ў рэчышча чужой і шкоднай яе сувэрэнітэту палітыкі. Калі расшыфраваць гэтае выслоўе, то атрымліваецца, што, дзякуючы адпаведнай дэстабілізуючай працы агэнтаў КДБ, закінутых яшчэ за часы беспамернай улады КПСС на тэрыторыі маладых незалежных дзяржаў, паўсюдна пануе вэрхал і бязуладдзе. Беларусь па волі выпадку мінула магчымасьць разгараньня міжнацыянальнага канфлікту. Але ястрабам ад палітыкі гэта не падыходзіць. Ім не пражыць без крыві на Беларусі ці без крыві яе сыноў па-за межамі дзяржавы. Таму сваю дэманскую прагу яны жадаюць задаволіць шляхам далучэньня краіны да калектыўнай бясьпекі.

Што ад гэтага атрымае Беларусь?

Спадзявацца, што нашаму войску ўдасца пазьбегнуць удзелу ў этнічных канфліктах, спадзяючыся на агаворкі, сьмешна, бо гэты антыдзяржаўна настроены парлямэнт абавязкова пры нагодзе скасуе агаворкі. Атрымаўшы такім чынам неабмежаваныя магчымасьці выкарыстаньня войска ўладныя абавязкова пашлюць нашых хлопцаў у гарачыя кропкі. І не таму, што іх карціць ад чуць пах крыві, а таму, што гэтага пажадае Расея ў сваіх гэапалітычных памкненьнях. Менавіта ёй, Расеі, й спатрэбяцца беларускае, казахскае, ўзбэкскае войскі для прыкрыцьця перад міжнародным супольніцтвам сваіх сапраўдных мэтаў.

Як жа празорлівыя палітыкі будуць ставіцца да Беларусі? Ня йнакш, як да марыянэткі іншай дзяржавы. Наш Вярхоўны Савет, урад ніхто ўсур'ёз успрымаць ня будзе. Наадварот, міжнароднае супольніцтва выпрацуе да Беларусі пагардлівае нэгатыўнае стаўленьне.

Гэта абернецца дзяржаве й яе народу найперш ізаляцыяй ад міжнародных эканамічных, культурных і навуковых праграм. Беларусь застанецца на сьметніку цывілізацыі з-за неабачлівай палітыкі тых, каму некалькі год таму даверыў свае лёсы народ.

Хто ж кампэнсуе Беларусі страты?

Страты Беларусі аніхто кампэнсаваць не зьбіраецца. Разьлікі на добразычлівае стаўленьне правячых колаў Расеі да нашых надзённых праблемаў - ня больш, чым ілюзія. Расеі, якая глыбока зацягнецца ў багну этнічных ваенных канфліктаў, будзе не да Беларусі. Ды й што ёй нашыя беды. Расеі галоўнае - мець уплыў на 1/6 тэрыторыі планеты.

Якія б партыі, рухі ці плыні не прыйшлі да ўлады ў гэтай краіне, вынік будзе адзін і той жа - імпэрскія памкненьні ў накірунку Ўсход - Захад - Поўдзень - Поўнач. Як кажуць, ад перамены месцаў складаемых вынік не мяняецца.

**У.СМАЛЕНСКІ.**

# А МЫ ЗРОБІМ ХІТРЭЙ?

Пішу да вас з нагоды артыкула В.Задалі «Беларусь, НАТА й суседзі» ў нумары ад 4-10 лютага. Справа ў тым, што прадстаўлены там пункт гледжаньня зьявіўся даволі нечаканым, калі ўлічваць накірунак газэты й дэкляраваныя незалежніцкія памкненьні аўтара. Але ці не занадта незалежніцкія?

Адразу выкажу думку, якая, на мой погляд, ляжыць нават на паверхні, што, нягледзячы на адчувальны ў першай частцы артыкула шчыры боль з прычыны прамаскоўскай марыянэткавасьці Беларусі, аб'ектыўна гэты артыкул, па-савецку кажучы, «ліе ваду на млын вядомых сілаў.»

На маю думку, тут праяўляецца ня толькі ўбіты савецкімі прапагандысцкімі коламі сындром «абложанай фартэцы», але й так характэрнае для мэнтальнасьці беларуса разуменьне хітрага мужычка: «Вы там сабе можа й мондрыя, але й я ня лыкам шыты й зраблю па-свойму.» Карацей кажучы, сярэднестатыстычны беларус, здаецца, разумее так: «Няхай наіўныя палякі й прыбалты сьпяшаюцца ў нейкую там рынкавую эканоміку й лезуць у пашчу заходняга цмока, а мы зробім хітрэй.»

Іншая справа, калі аўтар В.Задаля лічыць, што Захад ня толькі Беларусі (а таксама Бразыліі, Аргентыне й Чылі) не дае магчымасьці дасягнуць «эканамічных зрухаў», якія дазволілі б ёй расквітнець, - у адрозьненьне ад Польшчы й Балтыі. Але ж калі так, то чым жа мы горшыя? Хіба ж не стане аўтар сцьвярджаць, што Захад баіцца будучай ваенна-эканамічнай моцы дзесяцімільённай краіны. Ці ж усё ж такі ён ня можа канчаткова разьвітацца з ідэяй усходнеславянскай еднасьці й не дае права беларусам стаць эўрапэйскім народам нароўні з тымі ж летувісамі ці палякамі, як гэта, падобна, было на працягу стагоддзяў?

А можа справа не ў пазыцыі Захаду ці НАТА, а менавіта ў тым нашым адрозьненьні ад тых жа палякаў ці летувісаў, што ў нас нават нацыянальна сьвядомыя палітолагі ўсё яшчэ маюць такія перакананьні.

Але чаму ж НАТА ня возьме да сябе беларусаў, калі ўзяла былых страшэнных ворагаў хрысьціянскай Эўропы - туркаў?

Не зразумела, якія дадатковыя матэрыяльныя ці стратэгічныя карысьці зьбіраецца мець Захад з жабрацкай Беларусі.

Захад дазволіў акупаваным амэрыканцамі азіятам-японцам і паўднёвым карэйцам дасягнуць тых самых «эканамічных зрухаў».

**7.02.94г. В.ШЧАЯ-ЗУБРАЎ.**

# ПРА КАЛЕКТЫЎНУЮ БЯСЬПЕКУ, НАТА Й НЭЙТРАЛІТЭТ

Калі ўяўляеш, што такое сувэрэнная дзяржава, то найперш гэта стасуецца са зьнешнепалітычнай і эканамічнай канцэпцыяй дзяржавы, сюды неабходна дадаць унутрыдзяржаўную палітыку ў эканоміцы й абаронную дактрыну.

Ці мае што-небудзь з пералічанага вышэй наша сувэрэнная Беларусь? Відавочна, што не, бо як выславіўся падчас сваёй першай прэсканфэрэнцыі апошні старшыня Вярхоўнага Савету Мечыслаў Грыб - наша дзяржава нагогул ня мае нават тэарэтычнай распрацоўкі дзяржуладкаваньня. Адзінае, што абвесьціў гэты Вярхоўны Савет - гэта нэйтралітэт нашае Бацькаўшчыны, ад якога затым з ганьбай сам і адмовіўся, падпісаўшы дамову аб калектыўнай бясьпецы.

Зараз, калі многія нашы суседзі з мэтай забесьпячэньня сувэрэнітэту сваіх краін раптоўна пачалі прасіцца да Паўночна-Атлантычнага ваеннага блёку, Беларусь як бы засталася на раздарожжы.

Але гэтае раздарожжа вельмі ўмоўнае. Падпісаўшы ганебнае пагадненьне аб калектыўнай бясьпецы, Беларусь прывязала сябе да пэўнага ваеннага саюзу, дзе ўсім вядомая краіна будзе весьці рэй. Сёньня мы яшчэ адбіваемся ад рэчаіснасьці тым, што дамова падпісана з нейкімі там удакладненьнямі. Але чаго вартыя тыя ўдакладненьні, калі Расея запрагне ўдзелу беларускага войска ў рэгіянальных этнічных канфліктах у Сярэдняй Азіі ці на Каўказе ? Каб дабіцца свайго, яна зноў нашчыльна закруціць засоўкі газа- й нафтаправадаў ці затрымае рублёвую наяўнасьць. Зрабіць ёй такое будзе проста, бо мы самі прэмся да яе ў абдымкі, як вол у ярмо.

Што ж прынясе Беларусі такая будучыня? Найперш, нявылічоную колькасьць матчынага гора. Другое - Беларусь страціць права самастойна мовіць за сябе на міжнародным узроўні нават слова. Трэцяе - удзел беларускага войска ў геапалітычных імкненьнях Расеі ўшчэнт зьнішчыць які-кольвечы аўтарытэт Беларусі перад міжнародным супольніцтвам.

Якое можа быць выйсьце? Безумоўна, нашай дзяржаве неабходна мацаваць прыязныя, партнёрскія, добрасуседзкія адносіны з усімі суседзямі як на Ўсходзе, Поўначы, Поўдні, так і на Захадзе. Такое стаўленьне нашага кіраўніцтва стабілізуе абстаноўку. Надасьць упэўненасьці. Нездарма лідары трох славянскіх рэспублік сабраліся ў Віскулях, а потым абралі Менск сталіцай СНД. Вызначаная, канкрэтная пазыцыя Беларусі на добрасуседзтва й нэйтралітэт наноў створыць магчымасьць нашай дзяржаве зьвярнуць на сябе ўвагу й набраць так неабходныя палітычныя ачкі. Калі ж такое не адбудзецца, то тэрыторыя нашай краіны будзе карыдорам для аматараў збройных паходаў з Усходу на Захад.

Канешне, пры сёньняшняй існуючай палітычнай і эканамічнай сытуацыі на Беларусі марыць аб такім складана. Але пры адпаведным стаўленьні міжнароднага супольніцтва да Беларусі гэтае можна зьдзейсьніць. Змагло ў свой час міжнароднае супольніцтва стварыць на прасьцягах зямлі абяцанай дзяржаву Ізраіль для габрэяў. Надыйшоў той гістарычны момант, калі ў самым цэнтры Эўропы неабходна стварыць і ўмацаваць нэйтральную дзяржаву, якая б у сваёй зьнешняй і ўнутранай палітыцы была ўзорам для маладых і сталых дзяржаў сьвету.

**Г.АСТРОЎСКІ, сябра БНФ.**

# «ГАЛОЎНАЕ - НЯ ДАЦЬ ПАКРЫЎДЗІЦЬ АРХІТЭКТАРА: ЁН ЯШЧЭ БУДЗЕ ПАТРЭБЕН»

10 лютага 20-ая сэсія Гарадзенскага гарадзкога Савета разглядала восем пытаньняў, якія тычацца жыцьця горада. Пры разглядзе павесткі дня паступіла прапанова члена прэзыдыўма Б.Падольнага аб самароспуску, якая была падтрымана 20 абраньнікамі з 84 прысутных. Нават тыя, хто прызнаваў работу як «неудовлетворительной», кожнага прасілі не рабіць «мини-революций», нягледзячы на тое, «что мы мало что решаем».

Без абмяркоўваньня была задаволена заява С.Домаша аб спыненьні сваіх дэпутацкіх паўнамоцтваў.

З дакладам «Аб асноўных напрамках эканамічнага й сацыяльнага разьвіцьця горада на 1994 год і выніках работы прадпрыемстваў і арганізацый у 1993 годзе» выступіла намесьнік старшыні гарвыканкама Р.Патапава, якая засяродзіла сваю ўвагу на скарачэньні выпуску прадукцыі, павелічэньні сьмяротнасьці й зьніжэньні нараджальнасьці, росту беспрацоўя, якое мяркуецца ў гэтым годзе дайсьці да 29.600 беспрацоўных. Гаворачы аб стане эканомікі горада, Раіса Аляксееўна зазначыла, што ён вызначаецца палітыкай урада.

Большасьць прамысловых прадпрыемстваў горада плянуюць у 1994 годзе павялічыць аб'ёмы вытворчасьці, выпуску тавараў народнага спажываньня, а гэта адпаведна 100,8 і 109,7 працэнта.

А калі глядзець на працэнт росту, так больш усяго праглядаецца «палітыка ўрада ў спайваньні насельніцтва». Вінкамбінат плянуе павялічыць выпуск ліквора-гарэлачных вырабаў аж на 168,8 працэнта - гэта 600 тыс.дал., 200 тыс. моцных напояў і 250 тысяч дал. безалкагольных. Зьнізяць аб'ёмы прамысловай прадукцыі 9 прадпрыемстваў з 39, а тавараў народнага спажываньня - з 38 прадпрыемстваў 5.

Плянуецца завяршыць будаўніцтва музычнай школы на 672 месцы, вучылішча алімпійскага рэзэрву, спартзалаў унівэрсітэта й будаўнічамантажнага трэста N30.

Зьменшацца датацыі на прадукты харчаваньня, так як з большым заробкам працаўнік мае магчымасьць больш іх купіць. Неабходна выдзяляць датацыі канкрэтным малазабясьпечаным катэгорыям насельніцтва. Узрасьце плата за камунальныя паслугі, карыстаньне грамадзкім транспартам, і, як паведаміў дэпутат Д.Кірэйчук, нам. дырэктара аўтапарка N 1, «в 1995 году весь подвижной состав достигнет предельного износа и будет подлежать списанию».

Зацьвердзіўшы справаздачу аб выкананьні бюджэту ў 1992 годзе, перайшлі да абмяркоўваньня бюджэту 1994 года.

Так, на фінансаваньне сацыяльна-культурных установаў і сацыяльную абарону прадугледжваецца выдзяліць 55,3 млрд. рублёў, народную адукацыю - 27,5 млрд. рублёў - гэтыя павелічэньні складуць 3,7 раза. Расходы аховы здароўя вырастуць больш чым у 3,3 раза, а гэта 29,5 млрд. рублёў. Неабходна дадаць, што бюджэт зацьвярджаецца без дэфіцытаў згодна з Законам «Аб дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1994г».

Менш спрэчак вызваў плян арганізацыйнай работы, які з невялікімі папраўкамі быў зацьверджаны.

Адразу пагадзіліся дэпутаты перайменаваць аддзел народнай адукацыі бяз слова «народнай» і перападпарадкаваць выканкаму аддзел арганізацыйна-савецкай і кадравай работы. Не прапрацаваным палічылі пытаньне аб утварэньні гаспадарча-разьліковага ўпраўленьня транспарту, якое плянавалася стварыць пры выканкаме.

Больш усяго вызваў розных думак выступ пракуратуры вобласьці на тэму «Аб ухіленьні парушэньняў законаў аб барацьбе з карупцыяй».

Паўгадзіны «шыў» справу начальнік агульнага аддзелу Ў.Парамонаў, у якой зачытвалася аб парушэньнях законнасьці будаўніцтва ў горадзе, злоўжываньнях службовым становішчам, атрыманьні даходаў ад прадпрыймальніцкай дзейнасьці, што не дапушчальна для службовых асоб - начальнікаў упраўленьня архітэктуры й градабудаўніцтва Ў.Лытавым, яго намесьнікам У.Анісімавым і начальнікам бюро архітэктуры К.Сыраежка. Прапанова аб звальненьні з пасад не знайшла падтрымкі ў большасьці дэпутатаў. За дачу згоды на звальненьне з пасад прагаласавала 24 чалавекі, супраць - 20, устрымалася - 28. Астатнія зусім не галасавалі.

У падтрымку выступіў толькі адзін дэпутат У.Анісімаў, якога абвінавачвае пракуратура. Гэта й зразумела - астатняе вырашыла машына галасаваньня, паўтарыўшы старэйшага брата - Вярхоўны Савет.

Пасьля разгляду «рознага» сэсія завяршыла сваю работу.

**І.ПАЛУБОК.**

# ВЕТЭРАНЫ ЗА КАЙДАНЫ

Нядаўна, калі iйшоў па пляцы Леніна, да мяне падбег сталы чалавек і, паглядзеўшы мне ў твар, працягнуў улётку з заклікам усім сталым людзям аб»ядноўвацца вакол гарадзенскай вабласной арганізацыі вэтэранаў. Ва ўёетцы значылася, што збор прыхільнікаў-вэтэранаў, якія мрояць абараняць мой дабрабыт, адбываецца ў Доме Афіцэраў па вуліцы Ажэшкі.

Паклыпаў я туды, - думаў, што можа хоць чым мне тут дапамогуць ці хоць выслухаюць. На жаль, я памыліўся. Прамоўцы казалі заклікі не пра хлеб і не пра тое, як мне дапамагчы. А ціснулі ў прамовах пра нейкую мафію нацыяналістаў, якая збэсьціла заваёвы кастрычніка, зьнішчыла дабрабыт і прывілеі заслужаных людзей. Аддала на разрабаваньне замежнаму буржуйскаму капіталу сваю зямлю. Але ёй і гэтага мала, дык яна - нацыяналістычная мафія - яшчэ хоча й пасварыць між сабой братныя славянскія народы.

Пхнуўся я да трыбуны, каб выказацца, але нейкі такі сівагаловы вэтэран, як і я, сказаў, што на прамову трэба запісацца й падаць у сакратарыят рукапісны тэкст таго, аб чым буду гаварыць. Горка стала мне ад такой «павагі». Патупаў я дахаты не выславіўшыся пра набалелае. А па дарозе падумаў, што няма сэнсу хадзіць туды, дзе разважаюць больш пра палітыку, а не пра надзённыя праблемы старых. Таму прапаную стварыць нам тут у Горадні сваю вэтэранскую арганізацыю, якая б пра нас дбала й абараняла.

**В.СЕГІНЬ, 75 год, Горадня.**





# ЭКАНОМІКА

## АЎСТРЫЯ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ГЭРМАНІІ. АЛЕ ЯНА МАЕ СВОЙ ШЫЛІНГ

У сьвеце існуюць аналагі рублёвай зоны. Дастаткова нагадаць зону французкага франка. Французкая імпэрыя распалася, але Францыя трымае свае былыя калёніі - а гэта 13 краін Афрыкі - з дапамогай сваёй валюты. У гэтых краінах існуюць грошы накшталт беларускага разьліковага білета. Прычым, у кожнай краіне ёсьць свае асаблівасьці, аднак усё рэгулюецца ў Парыжы. І валютных зон шмат. Нядаўна, напрыклад, было аб'яўлена, што ў Афрыцы 19 дзяржаў ствараюць сваю грашовую зону й агульны рынак.

У Эўропе валютных зон ці валютных карзінак чатыры. Перш за ўсё, гэта карзінка нямецкай маркі. Карзінка французкага франка з яго зонай, карзінка брытанскага фунта стэрлінга, зона якога распаўсюджваецца на ўсе краіны былой Брытанскай імпэрыі. І карзінка італьянкай ліры. Цяпер, безумоўна, узьнікла карзінка расейскага рубля.

Аўстрыя, якая не ўваходзіць ні ў Эўрапэйскае эканамічнае супольніцтва, ні ў НАТА, тым ня менш, знаходзіцца ў зоне нямецкай маркі, ляжыць у яе карзінцы. Чаму? У Аўстрыі, ў асноўным, знаходзяцца прадпрыемствы, якія зьяўляюцца часткамі манаполій Гэрманіі, Францыі ці Амэрыкі. Прычым, каля 60 працэнтаў інтарэсаў гэтай краіны знаходзяцца ў Гэрманіі. Таму невыпадкова Аўстрыя ляжыць у карзінцы нямецкай маркі. Восем аўстрыйскіх шылінгаў роўныя адной марцы.

Мы таксама ня зможам выскачыць з зоны расейскага рубля. Як бы таго не хацелі. Нашы эканамічныя сувязі распаўсюджваюцца на Расею. І мы доўга яшчэ будзем ад яе залежыць. Але ня варта з галавой лезьці ў гэтую зону. Ёсьць жа цывілізаваны спосаб уваходу.

У чэрвені мінулага года Вярхоўны Савет Беларусі ратыфікаваў дагавор аб стварэньні банка Садружнасьці Незалежных Дзяржаў. Але й па сёньняшні дзень банк ня дзейнічае. А ён жа мог рэгуляваць усе валютныя пытаньні паміж краінамі СНД. Нашы кіраўнікі быццам бы забылі, што падпісвалі гэты дагавор. Цяпер у іх адна мэта: рублёвая зона. Іншага выхаду яны ня бачаць.

Ня буду шмат гаварыць аб тым, да чаго прывядзе аб'яднаньне грашовых сыстэм. Хачу толькі заўважыць, што ў выніку эмісіі грошай, якую будзе ажыцьцяўляць Нацыянальны банк Расеі, гэта краіна будзе атрымліваць эмісыйны даход. Ва ўмовах інфляцыі ён складзе да 15 працэнтаў валавага ўнутранага прадукту ў межах СНД. Думаецца, яна не захоча дзяліцца з іншымі краінамі. Для нас жа гэта абярнецца эмісыйным падаткам і стане цяжкім аброкам, які ў свой час накладваў на пераможаныя народы Чынгізхан.

У Казахстане, Узбэкістане, іншых рэспубліках былога СССР аб гэтым, відаць, задумаліся, таму ўвялі свае нацыянальныя валюты.

Так і нам неабходна ўводзіць сваю валюту. Аб'яднаньне грашовых сыстэм можа прынесьці аблягчэньне толькі ў першыя месяцы, потым яно непазьбежна прывядзе да развалу беларускай эканомікі й страты нашай дзяржаўнасьці.

Думаецца, нам варта браць прыклад з той жа Аўстрыі, якая з амаль несамастойнай прамысловасьцю, дзякуючы мэтанакіраванай эканамічнай і фінансавай палітыцы, змагла ператварыцца ў багатую краіну.

**Уладзімір НОВІК,**
**народны дэпутат Беларусі.**

## НЯМА СВАЁЙ ВАЛЮТЫ - І ЧУЖАЯ НЕ ДАПАМОЖА

**Чым больш выходзіць часу на падпісаньне прэм'ерамі Беларусі й Расеі пагадненьняў аб адзінай рублёвай зоне, тым больш на сэрцы непакою: што атрымаюць дзяржава й яе народ ад гэтых пагадненьняў?**

На пытаньні карэспандэнта «Пагоні» адказвае гарадзенскі камэрсант Анатоль Пракапенка.

- На жаль, сьпяваць і радавацца ад нейкай там рублёвай зоны не прыходзіцца, бо я гэтаксама магу згадаць аб даляравай зоне ці аб зоне йены. Нашаму ўраду здаецца, што ён адкрыў Амэрыку. Але,на мой погляд, тут няма аніякага вынаходніцтва. Ад вайны вядучай разьліковай адзінкай у Эўропе быў амэрыканскі даляр, але гэта не перашкаджала краінам паралельна выкарыстоўваць свае ўласныя грошы й грошы іншых дзяржаў. Галоўнае тут - не рубель, а тое, з чым наша дзяржава імкнецца ўвайсьці ў рублёвую зону.

***- Што для гэтага патрэбна?***

- Каб весьці размову аб агульнай валюце, найперш неабходна стварыць сваю фінансава-крэдытную сыстэму, якая б паслужыла стабілізуючым фактарам у магчымым аб'яднаньні. Цяпер можна слушна спытаць нашых законатворцаў:ці ёсьць нешта падобнае на Беларусі? Адказ адзін - няма. А калі няма сваёй фінансава-крэдытнай сыстэмы, калі не падлічана маёмасная вартасьць заводаў, фабрык, прыродных рэсурсаў, то ў выніку, зразумела, падпісаньня дамовы аб адзінай зоне на Беларусі безразьдзельна будзе ўладарыць капітал іншай дзяржавы. Зразумейце, так будзе абавязкова.

***- Няўжо Беларусь не прыдбае аніякіх выгодаў ад падпісаньня пагадненьня?***

- Магчыма, што на два-тры месяцы дзяржпрадпрыемствы й атрымаюць нейкую палёгку. Але гэта будзе часовая эйфарыя, бо мы тут, на Беларусі, чакаем танных энэрганосьбітаў, крыніц сыравіны. Давайце ўявім эканамічнае становішча таго, хто будзе даваць. Расейская экономіка сама трашчыць па швох. Доўга ўтрымоўваць нас на плыву яна ня здолее. Пачнецца абвальнае падзеньне ўзроўню жыцьця, забастоўкі. І ад рублёвай зоны застанецца пшык. Расея сама павінна будзе адмовіцца ад жаданьня ўладарыць на чужым двары.

***- Няўжо так будзе?***

- Ня трэба быць правідцам, каб разабрацца ў прапісных ісьцінах. У Расеі хоць як ішлі рэформы, і прыватнаму капіталу ня з рукі цягнуць на сваіх плячох каманднa-размеркавальную прамысловасьць Беларусі. Пакуль што там перамагае палітычны прывід, але гэта часова. Жыцьцё ўсё разьмяркуе па-свойму. Выйсьце нашай краіны з «таннай» і безтурботнай рублёвай зоны будзе балючым. Таму лепей зараз добра палічыць, каб потым не кусаць сябе за локці.

***- Якое выйсьце вы прапануеце?***

- Ня трэба сьпяшацца падпісваць пагадненьне аб рублёвай зоне. Найперш неабходна прыняць блёк законаў, якія б стварылі спрыяльныя ўмовы для бізнэсу. Я маю на ўвазе прыватызацыю, разьдзяржаўленьне маёмасьці. Калі беларус стане гаспадаром на сваёй зямлі, разьбярэцца, што па чым, тады й можна будзе ўваходзіць хоць у рублёвую зону, хоць у якую-небудзь іншую. А пакуль у нас застаецца каманднa-размеркавальная сыстэма, чакаць паляпшэньня ад штучных вынаходніцтваў ураду няма сэнсу.

**У.ГЕРАСІМОВІЧ**

## ЛЕЗЕМ У ДАЎГАВУЮ ЯМУ

На канец цяперашняга года зьнешні доўг Беларусі павінен скласьці два мільярды даляраў ЗША. Так, нашай маладой дзяржаве вельмі патрэбны сродкі для рэфармаваньня сваёй эканомікі. Таму прыняцьце замежных крэдытаў непазьбежна. Але ці варта залазіць у такі доўг? Калі яго падзяліць на колькасьць жыхароў Беларусі, то на кожнага чалавека атрымаецца па 200 даляраў. А калі перавесьці даляр па курсу ў беларускія зайчыкі, то атрымаецца 1 мільён 300 тысячаў рублёў. Такім чынам, сям'я з чатырох чалавек будзе павінна замежнікам 5 мільёнаў 200 тысяч. Гэта нямала. Вялікі доўг апраўданы толькі тады, калі сродкі даюць вельмі добрую аддачу. У Беларусі ж такой аддачы няма.

Былая БССР у структуры СССР мела доўг каля 2,3-2,5 мільярда даляраў. Але ж гэтыя лічбы былі пастаянныя штогод. Цяпер жа паказчыкі растуць, як грыбы пасьля дажджу. У 1991 годзе Беларусь ня мела ніводнага даляра доўгу.

У першую чаргу, рост пазыкі выкліканы нашай бязграматнай фінансава-крэдытнай палітыкай, проста нядбайным гаспадарскім падыходам да справы. Два гады назад Беларусь магла нават мець нейкі даход ад разьдзелу замежнай маёмасьці былога СССР. Але наш урад адмовіўся ад сваёй долі - 10 мільярдаў - у карысьць Расеі. І цяпер за мяжой нам прыходзіцца пачынаць з нуля, аддаючы вялікія сродкі на стварэньне пасольстваў.

У Расеі ў пачатку 1992 года пачалася лібэралізацыя цэн. Іх рост літаральна зьеў ашчадныя ўклады людзей. Акрамя таго, расейскі ўрад пачаў скарачаць колькасьць грошай у абарачэньні. Беларускі ўрад у адказ нічога не прадпрыймаў і чакаў, што будзе ў суседа. Час ішоў, наяўных грошай стала не хапаць, і 8 траўня зьявіўся разьліковы білет Нацыянальнага банка. Гэта дазволіла мець у дастатку грошай, але павысіла інфляцыю.

Барыс Ельцын выдае ўказ аб абароне грашовай сыстэмы Расейскай Фэдэрацыі, і з 1 ліпеня Расея стала праводзіць разьлікі толькі праз карэспандэнцкія рахункі. Па сутнасьці аб'яўлена грашовая вайна краінам СНД. Беларускі ўрад паранейшаму нічога не прадпрыймае. Грошай стала катастрафічна не хапаць, разьлічвацца не было чым. Узьнікаюць кліры нгавыя пагадненьні, а пад іх - тэхнічныя крэдыты.

Першы такі крэдыт быў узяты 1 жніўня 1992 года. Урад выдаў гэта за вялікую перамогу. Да канца года доўг склаў 80 мільярдаў рублёў. На той час гэта была вельмі вялікая сума. Летась залезьлі ў доўг, менавіта па тэхнічных крэдытах, яшчэ на 150 мільярдаў рублёў.

Нярэдка бывае, што ўзяты крэдыт выкарыстоўваюць неэфэктыўна. Так, мінскаму вытворчаму аб'яднаньню «Гарызонт» на рэарганізацыю вытворчасьці быў выдадзены крэдыт у памеры 20 мільёнаў нямецкіх марак. У аб'яднаньні іх, вобразна кажучы, праелі. Адказнасьці ніхто не панёс. Доўг жа прыйдзецца аддаваць.

Так, пакуль няма дакладнага мэханізму, эфэктыўнага выкарыстаньня крэдытаў. Купляюцца абсталяваньні для дзяржаўных прадпрыемстваў. Дзяржаўны ж сэктар скарачаецца, а хто ж тады будзе аддаваць доўг?

Нярэдка не пралічваюцца ўсе варыянты крэдытаваньня. Так, летась у калгасах і саўгасах кілю збожжа купілялі па 91-95 рублёў. Казахстан прадаваў нам яго па 300 рублёў. А ў далёкім замежжы куплялі па 100 даляраў за тону. Навошта плаціць грошы за мяжу, калі можна заплаціць свайму селяніну, каб ён больш вырошчваў?

Міжнародны валютны фонд выдаў крэдыт на 10 мільёнаў даляраў на пакупку 50 тысяч тон паліва. Але чаму 50, а не 55? Чыноўнікі шчыра прызналіся, што ня было часу вазіцца, вось і рашылі купіць 50. Яшчэ на адзін крэдыт закупілі нафту па 200 даляраў за тону. Але ж можна было б купіць і на 150-160 даляраў. Зноў ніхто не захацеў думаць.

Варта мяняць выдачу крэдытных сродкаў.Цяпер які-небудзь крэдытам распараджаецца адзін банк. Думаецца, неабходна ліквідоўваць такую манаполію. Напрыклад, крэдыт у памеры 50 мільёнаў даляраў можна перадаць у 2-3 банкі, дзе сродкі вызначаць некалькім кліентам. Можна выдаваць крэдыты й на конкурснай аснове й г.д.

Пара ўжо наводзіць парадак у атрыманьні замежных пазык, а то хутка Беларусь будзе мець такі доўг, што й нашы праўнукі яго ня здолеюць выплаціць. Толькі каму наводзіць? Міністэрства фінансаў, якое само раздае, само сябе й павінна кантраляваць?

**Уладзімір СЕМЯНЦОЎ.**



## ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

В.ПАНУЦЕВІЧ

# ГАРАДЗЕНШЧЫНА Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ РУХУ Ў 1918-1919 ГАДОХ

**(Пачатак у NN4-6).**

У другі раз супраць польскай агрэсіі Рада БНР пратэставала 2 студзеня 1919 з Горадні, а такжа ў нотах дыпляматычным прадстаўніком Амэрыкі, Англіі, Францыі і Італіі ў Спаа 8 ст. 1919 г. з тае-ж Горадні.

«Хмарамі пражорлівай саранчы з захаду і ўсходу насоўваліся на нас, - піша Антонаў у сваіх успамінах, добра знаёмыя нам бальшавікі й палякі. Жудасна рабілася пры чаканьні няпрошаных гасьцей, бо кожны з нас разумеў, што нясуць нам тыя й другія: голад, страшэнныя руіны і бяз таго ўжо зруйнаванай краіне, гвалт, зьдзекі й паняволеньне народу, што прачнуўся ад долугалетняга летаргічнага сну для новага вясьнянага жыцьця...

«У меру набліжэньня да Горадні заходніх і ўсходніх ворагаў, бальшавікоў і палякаў, - чытаем далей, - павялічылася ў Горадні і колькасьць уцекачоў, шукаючы абароны як у немцаў, так і ў маладой беларускай уладзе ад насільстваў, рабункаў, пабоеў і расстрэлаў. Яны, уцекачы, інфармавалі нас аб усіх зьверствах палякаў і бальшавікоў у займаных мясцовасьцях Гарадзеншчыны, аб іх чэрэзвычайках, каральных аддзелах, камісарах, палякуючых фанатыках, аб рэзаньні жыдоўскіх барадаў пазнанцамі і іншых зьдзеках адных і другіх.

«Больш за ўсё даставалася ад захопнікаў-палякаў прадстаўнікам зарганізаваных Беларускіх Камітэтаў, школаў, каапэратываў, міліцыі, царкоўнікам і г.д. Установы, звычайна, зачыняліся, маёмасьць разрабоўвалася жандарамі, некаторыя з арыштаваных расстрэльваліся, іншыя адсылаліся ў турмы і канцэнтрацыйныя лягеры».

І міма крывавага глуму як бальшавікі, так і палякі надзявалі на сябе авечую скуру «вызвальнікаў» беларускага народу. Бальшавікі 1.І.1919 абвесьцілі ў Смаленску БССР, а на займаных землях пра-водзілі мабілізацыю насельніцтва ў «Беларускія» дывізіі. З другога боку Палякі ў гэтым самым часе (на пачатку студзеня 1919) тварылі ў Замбраве каля Ломжы «літоўска-беларускую» дывізію дзеля «вызваленьня» Беларусі ад бальшавікоў, а на Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы ды ў афіцыяльных выказваньнях трубілі, што ідуць на ўсход толькі дзеля змаганьня з бальшавікамі.

Польскую агрэсыўную палітыку на нашых землях выдатна падтрымоўвала Францыя на Мірнай Канфэрэнцыі, каторая пачалася 18 студзеня і незалежна ад Канфэрэнцыі. Францыя хацела мець у Польшчы саюзьніка дзеля трыманьня ў кляшчох Немцаў. З другога боку тэй-жа Польшчай і белагвардзейшчынай думала перамагчы бальшавікоў. Англія й Амэрыка не хацелі даваць сваіх сілаў на барацьбу з бальша-вікамі, а толькі хацелі мінімальнымі коштамі і добрымі высадкамі забясьпечыць свой удзел у лёсе ўсходняй Эўропы і Расеі. У асноўным дамінавалі Французы.

Палякі вычулі ў гэтай палітычнай гульні нездэцыдаванасьць англасаксаў у палітыцы адносна беларускіх і ўкраінскіх земляў, іхнюю нерашучасьць у пастановах і дзеяньнях, і маючы за сабой Францыю, імкнуліся пры дапамозе агрэсыўных актаў пашырыць свае межы на ўсходзе пад прыкрыцьцём змаганьня з бальшавікамі. Гэта сталася тым больш магчымым, што галоўнакамандуючы саюзнымі войкамі маршал Фош ужо 25 студзеня 1919 г. зажадаў ад Немцаў прапускаць свабодна польскае войска цераз акупацыйную зону дзеля змаганьня з бальшавікамі.

Вось чаму ў канцы студзеня 1919 г. польская агрэсія стала такой наглай - ня гледзячы на дыпляматычныя пратэсты ды многія саюзныя інспэкцыйныя місіі ў Польшчы і на «спрэчных тэрыторыях.»

«2 лютага аддзел легіяінераў напаў на мястэчка Індуру, разагнаў і арыштаваў удзельнікаў сялянскага сходу, які абмяркоўваў пытаньне ўстанаўленьня міліцыі дзеля барацьбы з нарастаючым бандытызмам, заявіўшя ім, што ўсё ў гэтым краі павінна пастанаўляцца толькі палякамі».

«13 лютага польскія легіянеры ўвайшлі ў м.Масты, дзе пачалі з таго, што забралі бяз грошай прадукты й пабілі некалькі чалавек мясцовых жыхароў. Аднаго з іх секлі ля пасьцелі жонкі, толькі што нарадзіўшай дзіцё. Няшчасная кабеціна саскочыла з пасьцелі і адабрала мужа.»

«15 лютага легіянеры ўвайшлі ў м.Рось, Ваўкавыскага павету, і зрабілі тут шмат насільля, адбіраючы ў жыхароў маёмасьць і люта зьбіваючы нават жанчынаў.»

«15 лютага легіянеры ўступілі ў м.Супрасьль, Беластоцкага павету. Зразу пачаліся прасьледваньні, арышты, зачыняньні і запячатваньні цэркваў. Арыштаваныя былі: штабскапітан Хомчык, ахвіцэр Беларускага палку, селянін Шымански, Іван Крутуля, Белабокаў, рэгент архірэйскага хору - Шах».

«21 лютага ў вёсцы Южны-Востраў Сакольскага павету польскімі легіёнамі быў арыштаваны ахвіцэр-вярбоўшчык Беларускага палку Гарош. Сяляне гэтай вёскі, даведаўшыся, што Гарош мае быць расстрэлены, памаглі яму ўцячы і некалькі дзён яго хавалі.»

«22 лютага ў м.Індуры Горадзенскага павету польскія легіянеры арыштавалі двух вярбоўшчыкаў, высланых з літаратурай у Беластоцкі павет: Юльяна Касьценчыка і Аляксандра Кандрусіка. Літаратура (загады, адозвы, ўмовы для ўступаючых у беларускую армію) была адабраная, грошы, запісныя кнігі, ліхтарыкі, харчы таксама. Іх, зьвязаўшы ззаду рукі, зачынілі ў пусты будынак пад старожай, дзе яны прасядзелі да 8 гадзін вечара. А 8 гадзіне вечара камандант, адаб-раўшы ад іх усе грошы, выняўшы равальвэр, зьдзекваўся так: »Малі-цеся Богу, бо вас зараз жа застрэлюць». А 10-й гадзіне вечара іх вывелі пад кіраўніцтвам таго ж каманданта на могілкі і паставілі абодвух у рад. 6 чалавек легіяністаў выстраіліся да расстрэлу. Арыштаваныя прасіліся, каб іх ня мучалі, але калі хочуць расстраляць, хай страляюць. Тады камандант змусіў іх зноў маліцца, і сказаў, што гэтым разам іх пускае. Звольнены быў Кандрусік, а Касьценчык быў вывезены жандарамі ў Бераставіцу, а адтуль у канцэнтрацыйны лягер».

Супраць гэтых зьверстваў Палякаў цяжка было змагацца. Немцы паклікаліся на загад маршала Фоша аб прапусканьні польскіх войскаў ды на ўмову з Палякамі ў Беластоку з 8 лютага 1919 г. Раней яны прыпынялі польскі разгул. Так, напрыклад, калі ў канцы лістапада 1918 г. у Капцёўшчыне, 12 км ад Горадні па дарозе на Індуру, зарганізаваўся польскі эскадрон пад камандай ротм. Чучаловіча, які рабіў выбегі на навакольныя вёскі, то на пратэст беларускіх уладаў у Горадні Немцы ў студзені 1919 г. разьброілі яго, канфіскуючы 108 стрэльбаў, 14 рэваль. і 8.000 патронаў, арыштоўваючы 5 ахвіцэраў. Быў таксама арыштава ны 23 студзеня 1919 г. ген. Сулеўскі, камандант Горадзенскай «Самаабароны», і ягоны ад'ютант Шымански.

Сытуацыя зьмянілася пасьля загаду марш. Фоша ды Беластоцкай угоды. У канцы лютага т.г. Палякі дасягнулі лініі Індура-Скідаль-Зэльва-Пружаны-Кобрынь.

Раптоўнае пасоўваньне польскага войска ды іхная расправа з беларускім рухам выклікалі зразумелы перапалох насельніцтва й вострый пратэст беларускага ўраду. 13 лютага 1919г. Міністр Беларускіх Спраў Я. Варонка гэтак пратэставаў перад нямецкім прадстаўніком у Коўні Цымэрлем:

«Заняцьце беларускай тэрыторыі Літвы польскімі войскамі сталася фактам. Беларускія ўрадаўцы ўцякаюць з Бельску, Белавежы, Беластоку. Насельніцтва перапалоханае. Жыды ў паніцы. Абурэньне страшнае ў жалабнікаў, што шукаюць у нас абароны. Ніводзін акт, які б сьведчыў аб нейкіх перагаворах , даўшых права Палякам заняць нашу тэрыторыю, ніколі польскай ня быў-шаю, не апублікаваны. Паход палякаў выклікае ў насельніцтва сымп-атыі да бальшавікоў, ад якіх чакаюць вызваленьня ад польскай аку-пацыі. Польскія камісары ўжо наваднiваюць Літву. Адзін з іх без перашкодаў асеў у Горадні і на маіх вачох дзейнічыць у імені Польскай Рэспублікі. Адбываецца нябачанае ў гісторыі насільле над беларускім народам і нічым не абаснованае ўстанаўленьне ў граніцах Літвы згубнай для нас польскай дзяржаўнасьці...»

На гэты пратэст Цымарле адказаў, што ён нічога ня можа зрабіць, бо на патрабаваньне маршала Фоша з 25 ст. 1919 нямецкі ўрад згадзіўся прапускаць польскія войскі. Аднак гэта зусім не абазначае польскіх праваў да займаных земляў.

Адначасова (9 лютага 1919) Урад БНР з Горадні за подпісам прэм'ера Антона Луцкевіча і дзяржаўнага Сакратара Л.Зайца зладжыў пратэстацыйную ноту кіраўніку Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы. У ноце, між іншым, гаварылася:

«Польскія імпэрыялісты імкнуліся ўжо да даўжэйшага часу захапіць у свае рукі беларускія землі, абасноўваючы свае апэтыты на тым, што Беларусь разам з Літвой (у зн. Жамойцяй) калісьці тварылі з Польшчай саюзную дзяржаву, а таксама і тым, што ў Беларусі жыве пэўная колькасьць Палякаў. Што датчыць былога саюзу Польшчы з Беларусьсю, які прадстаўляў парлямэнтарную вунію двух поўнасьцяў аўтаномных дзяржаваў , то гэты саюз ужо даўно згубіў сваю праўную сілу ў выніку заняпаду польскай вунійнай дзяржавы ў канцы 18 в. ды можа быць узноўлены на аснове акту, аднак такі акт пакуль што ня можа быць зроблены дзеля варожага настаўленьня Беларускага народу да гэткай ідэі. Што зноў адносіцца да польскага элемэнту ў Беларусі, то ён творыць зусім маленькі працэнт (у паасобных акругах ад 2-10 працэнтаў) ды прадстаўляе сабой выключна маёнткаўладальнікаў (вялікіх і сярэдніх), а таксама некаторы лік мяшчанства ў вялікіх гарадох у заходняй частцы краіны. Дзеля гэтага названая група насельніцтва ніяк ня можа выступаць з палітычнымі дэклярацыямі ў імені беларускага народу, што парушае сувэрэнныя правы беларускага народу да самастанаўленьня на ўсёй тэрыторыі.»

Далей нота гаварыла аб прапольскай дзейнасьці каталіцкага духавенства згодна з польскімі інструкцыямі, каб прыдбаць беларускую тэрыторыю для Польшчы, што гэтае духавенства ўсякімі спосабамі баламуціць беларусаў-каталікоў быццам яны Палякі і каб дамагаліся ўстанаўленьня польскай улады. Нота раскрывае спробы польскага ўраду пры дапамозе ката-ліцкага духавенства і маёнтка-уладальнікаў правесьці выбары ў Горадзенскай акрузе ў польскі канстытуцыйны сход у Варшаве. Далей паказвае самавольнае нарушэньне сувэрэнных правоў Беларускага народу цераз вызначэньне Палякамі на 1 лютага 1919 г. выбараў у Горадзеншчыне ў Варшаўскі сэйм ды цераз стварэньне штучным спосабам, бяз згоды беларускага насельніцтва, «Рады Начэльнэй Земі Гродзенскей» у супрацьстаўленьне легальнай Цэнтральнай Радзе Гарадзеншчыны ды вызначэньне мабілізацыі ў Вільні й Віленшчыне. Нота апісвае таксама лютыя зьдзекі польскіх легіянераў над беларускім насельніцтвам. У канцы нота просіць заходнія дзяржавы ўзяць пад ахову беларускае насельніцтва Горадзеншчыны перад польскай агрэсіяй.

Ацэньваючы паважную небясьпеку польскай агрэсіі ў канцы лютага 1919г., прэм'ер і міністар замежных справаў БНР Антон Луцкевіч разам з ген. Кандратовічам і Ладновым выехалі ў Парыж, каб там бараніць беларускія справы на Мірнай Канфэрэнцыі.

**(Працяг будзе).**

